Gudų Centras

# Беларускі Асяродак

ЧАСОПІСЬ КУЛЬТУРЫ І ГРАМАДЗКАГА ЖЫЦЬЦЯ

Адрэс рэдактора: Інж. К. Дужэўскага-Дуж. Kaunas, Ožeškienės g. 8. Tel. 22-25.

Адрэс для пісьмаў: Kaunas, p. d. № 44.

1933 | СЬНЕЖЭНЬ | № 1



## Ад рэдакцііі.

Выпушчаючы у сьвет „Беларускі Асяродок" мы маем на мэце добрыя адносіны літоўскага народу да беларусоў і беларускія сымпатыі да Літвы. Дзеля гэтага ў першы чарод мы хочэм служыць запазнаньню гэтых двох народаў, зблiжэньню іх і углыбленьню добрых адносінаў паміж імі.

У Літве Беларусаў дужа нямнога, але ўсе-ж і невялікі лік іх мы не павінны пакідаць. Б. А. будзе служыць інтэрэсам беларускай меншасьці і беларускіх арганізацiяў Літвы.

Каля $2^1/_2$ мільёнаў беларусаў апынулася пад польскай акупацией у страшных політычных, культурных і цэнзурных абставінах. Мы павінны прысьці на дапамогу ім у нbackslash

Кожды народ мае культурныя і наагул нацыянальныя справы, якія выходзяць за межы тэй чы іншэй дзержавы. Б. А. хочэ служыць гэтым агульна беларускім справам, дзе-б яны ні падымаліся.

Б. А. не зьяўляецца партыйным органам і дзеля гэтага ён пастараецца даць магчымасьць высказвацца усім, хто захочэ служыць беларускай справе. Б. А. мае быць вольнай трыбунай для беларускага народу у справах яго культурнага і грамадзкага жыцьця.

Хочучы быць вольным і незалежным Б. А. выдаецца на прыватны кошт і не карыстае ніякімі ні запамогамі, ні субсыдзіямі. Мы верым, што грамадзянства беларускае падтрымае так патрэбную беларускую часопісь.

**ЛЮДАС ГІРА**

# З Новым Годам

Л. Гіра адзін з найпапулярнейшых літоўскіх паэтаў, добра ведае беларускую мову. Гэты верш ён напісаў па беларуску.

Прайшоў, праплыў ўжо час крывавы
Вялікай барацьбы тытанаў,
Час сьмерці, ненавісьці, славы,
Праклящьця час і час пашаны...

Ў грымотах бур, пажараў зорах,
Ад Франкаў Соммы да Дзьвіны
Прайшоў так люты час вайны
Ўсяго жывога грозны вораг.

Той час мы цяжкай, працавітай
Жыцьця ахвяраю здалелі,
Бо ў сільных нашых душ касьцелі
Мы праўдзе молімся аткрыта.

Бо ў крыўдзе мы ўзраслі... І вочы
Ўжо выплакалі нам крывава
Ўсе сьлёзы ў час той доўгай ночы
Калі тужылі мы за славай.

За старай славай, вольнай воляй,
Што ў курганох ляжыць з бацькамі
Чакаючы, калі-ж у поле
На шлях забыты выйдзе з намі...

Калі-ж мы выйдзем, як прыстала
Адважных рыцараў сынам,
Нягледзячы што-нас мо-й мала,
Што ворагі і тут і там...

Адна бо ў сьвеці сьмеласьць ёсьць,
Яна ня лічыць сіл сваіх,
І ня чакае, каб уціх
Крык ворагаў і змоўкла злосьць.

Наш брат сярмяжны, брат вясковы
Сваей адвечнаю жальбою
Загартаваў ўжо нас да бою—
Дык ён хоць новы нам—ня новы.

Ў народу песьні, ў казцэ сумнай
Яго ёсьць сіла не спажыта,
Не раздушыць яе і трумнай,
Бо і з магіл ўзрастае жыта.
І хоць ня шчэзла тая мгла,
Што вольны сьвет ад нас закрыла,
Ня зродзілась такая сіла,
Каб нас змагчы, здалець магла.

Дык хай на захадзе, на ўсходзі
Гараць крывавай зорай далі—
Тужыць, браты, сягоньня годзі!
Год цэлы сумна ўжо ўздыхалі.
І хай шайтанскі сьмех рагочэ,
Чырвоны сьмех сярод магіл—
Ніхто не мае столькі сіл,
Каб закаваць нам старахам вочы.

Пужацца нам, браты, ня годзе!
Сустрэнем-жа год гэты новы,
Што нам ў крывавых зорах ўсходзе,
Адвагі рыцарскімі словы!
Няма бо ў пеклі нат той мочы,
Каб нашае зламаць каханьне,
Айчызны нашай сон дзявочы
І веру, што яна паўстаньне.

Дык, хоць слабыя мы, як дзеці,
Мы з верай той і с тым каханьнем
Сільнейшыя за ўсіх на сьвеці—
Мы з йімі і з магіл паўстанем!
Сустрэнім-жа, браты, сягоньня
Мы сьветлым вокам год той новы—
Хай песьня вольная разгоне
Жальбу надзеі сьветлым словам...

І хай паверыць з нас усяк,
Што нам ня бачыць ўжо няволі,
І што ня будзе ўжо ніколі
Пужаць ніякі ваўкалак!
І хай паверыць, што ня дарам
Сталетнія парваны путы,
І што народ з акоў раскуты,
Сам вольным будзе гаспадарам.

# Прывітаньне-адозва

## Беларускага Цэнтру да ўсіх беларускіх арганізацiяў і да ўсіх беларусаў.

Беларускі Цэнтр ў Літве вітае Вас ўсе беларускія арганізацыі, дзе—б вы ні былі і вас ўсіх беларусоў, якія стаяць на цьвердым нацыянальным грунце і імкнуцца да поўнага адраджэньня свайго народу.

Мы клічэм вас да супрацоўніцтва, клічэм да еднасці, да арганізаванай салідарнасьці. Мы клічэм вас стаць ў рады барцоў за беларускую культуру, за беларускае адраджэнье, за лепшую долю беларускага народу.

### Да віленцаў.

Асобна вітаем вас браты беларусы, што апынуліся у нешчасьці пад польскай акупацией.

Мы ведаем якія мукі вы пераносіце ад акупантаў, ведаем, што Польшча душыць ўсе жывое беларускае, што закрыла яна ўсе школы, гноіць ў турмах тысячы людзей толькі за тое, што яны беларусы.

Ведаем, што ўсе эканамічныя беларускія пляцоўкі палякамі зьнішчаны, земля ад беларускага селяніна адбіраецца і перадаецца польскаму асадніку. Ў гэты цяжкі крызісны час Польшча прысудзіла ўсе беларускія і літоўскія землі на поўнае зьнішчаньне, каб палепшыць стан польскіх зямель. Беларускія і літоўскія гарады і мястэчкі мруць і гібнуць пад цяжарам падаткаў і безрабоцьця, затое непамерна расьце і багацее Варшава і польскія гарады. З нашых зямель вывозяцца апошняе дабро і скарбы для распрадажы за бязцэнак.

Мы ведаем, што трудна пералічыць тыя крыўды, якія Польшча робіць беларускаму народу пад акупацияй, трудна зьмерыць тыя сьлезы і тую кроў, якія праліты беларусамі. Ведаем, што Польшча імкнецца да поўнага зьнішчаньня беларускага народу, каб ачысьціць землі для свайго імпэрыялізму. Ганьба Польшчы!

Ведаем, што бараніцца ад гэтай польскай напасьці вам непамерна цяжка, тым, больш, што арганізавацца беларусам Польшча не дае магчымасьці. Калі—ж беларусы, ня гледзячы на ўсе, арганізуюцца, то Польшча часта пасылае сваіх агэнтаў, каб тыя зрывалі сходы, каб тыя найміты, прыкінуўшыся беларусамі разлагалі жывое цела беларускае. Часта гэты агенты самі ня ведаюць,

што яны робяць і каму яны служаць. Не паддавайцеся такой правакацііі.

Мы цьверда верым, што скора настане час расплаты.

Праз кардон мы падаем вам руку маральнай дапамогі і салідарнасьці. Ведайце, што мы беларусы Літвы і літоўскі народ з вамі.

**У незалежнай Літве.**

Ведайце, што тут, у незалежнай Літве, мы беларусы пачуваем сябе поўнапраўнымі сынамі гаспадарства. Тутака нема распадзелу на „нашых“ і „вашых“. Мы беларусы і літвіны разам будуем і узмацоўуем супольнае гаспадарства, супольную дзержаву.

Як час надойдзе злучыцца вам з намі, вы такжа адчуеце радасьць і шчасьце поўных правоў, радасьць і шчасьце незалежнага жыцьця.

Мы тут імкнемся зблізіцца з літоўскім народам, просім і вас там, пад польскай акупаціяй, старацца знайсьці супольныя інтэрэсы з літвінамі і зблізіцца з імі. Трэба ужо цяпер падгатоўліваць грунт для будучага беларуска-літоўскага сужывецтва.

**Да беларусаў Літвы.**

Да вас беларусы незалежнай Літвы зьвертаемся з адозвай арганізавацца і абьеднацца каля Беларускага Цэнтру ў Літве. Пасылайце ў Цэнтр сваіх прадстаўнікаў. Ўсе разам мы многа больш зробім, чым кожды паасобку. Мы павінны выкарыстаць тое, што незалежная Літва дае нам магчымасьць свабодна жыць і рупіцца самім аб нашых патрэбах. Мы павінны ня толькі ня шкодзіць адзін другому, але, наадварот-дапамагаць.

Нечага нам спрэчкамі займацца. Трэба працаваць! Беларускай работы на ўсіх хапае.

Мы павінны паказаць, што мы годны свабоды і ўмеем свабодай карыстацца!

**Беларускі Центр ў Літве.**

## Прамова праф. З. Жемайціса

На конгрэсе Беларускага Цэнтру ад імя віленцаў сказаў вялікую прамову па беларуску адзін з найбольш вызначных адраджэнцаў літоўскага народу дзекан факультэту праф. З. Жэмайціс. Прафэсар вядамы як вялікі прыхільнік беларускага адраджэньня і сам даволі дабра ведае беларускую мову. Кароткі зьмест яго прамовы такі.

Ў гістарычным прошлым літоўскі народ жыў побач з народам беларускім па брацку і у вялікай прыязьні. Літва

прымушана была адбівацца ад жорсткага націску нямецкіх крыжакоў з заходу. На усходзе ей адбівацца не прыходзілася, бо там жыў брацкі беларускі народ, які памагаў ей у барацьбе с крыжакамі.

Паганская Літва у Хрысьціянстве і крыжы бачыла нешчасьце і пагрозу. Яна усімі сіламі Яго ненавідзіла і змагалася з ім, бо крыж ей няслі ненавісныя нямецкія крыжакі з заходу.

І дзіўная рэч, тая самая паганская Літва ушанавала і палюбіла крыж, калі яго прыняслі ей з усходу Беларусы.

Літвіны і беларусы ніколі не ваявалі. Абадва народы поплеч згодна жылі у аднэй дзержаве. Разам яны утрацілі сваю незалежнасьць і трапілі у няволю. Больш менш адначасна пачалося і адраджэньне іх. Як літвіны так і беларусы вельмі чулыя на правы народаў і мы павінны гэты правы шанаваць.

Інакш ёсьць паміж літвінамі і палякамі. Праз увесь час паміж гэтымі народамі былі непаразуменьні, бо палякі не шануюць правоў іншых народоў і не выпаўняюць дагавораў.

Беларусы і Літвіны заўсёды змогуць жыць у згодзе, ім трэба як і ў гістарычным прошлым трымацца блізка адзін аднаго. Цяпер жа трэба добра пазнацца паміж сабой.

Беларускі Цэнтр ў Літве — арганізація даўно вядомая, многа зрабіла карысьці і надалей можа зрабіць многа дабра. Праф. З. Жэмайціс вітае Б. Ц., а также просіць прыняць яго у лік сяброў—прыхільнікаў.

# Беларускі Цэнтр у Літве.

На апошніх выбарах патаёмным галасаваньнем выбраны у праўленьне:

Інж. К. Душэўскі-Дуж—старшына
В. Барысовіч—сэкрэтар
І. Сіротка—скарбнік
Я. Ясінскі—кандыдат
Э. Карняк—кандыдат.

У рэвізійную камісію выбраны
Праф. Т. Іваноўскі
Студ. В. Іваноўскі
Д-р М Спірыдовічава.

ВУЧАЦЯЛІ! рэгіструйцеся у Беларускім Цэнтры ў Літве.

## Школьны аддзел.

Беларускі Цэнтр меў заўсёды на увазе культурные беларускія справы, але школьнымі справамі сам беспасярэдна не займоўся пакідаючы гэты справы на апеку спэцыяльных арганізаціяў. На вялікі жаль за увесь час ні воднай спэцыяльнай беларускай культурна-прасветнай арганізаціі не ўдалося стварыць ні аднэй беларускай школы ў Літве. З другога боку потрэба беларускіх школоў ачавістая, такжа, як ачавістая і прыхільнасьць Літвы да беларускай культурнай працы.

Беларускі Цэнтр прызнаючы важнасьць і патрэбнасьць беларускай школы ў Літве парашыў адкрыць пры Цэнтры школьны аддзел, які павінен заняцца школьнай справай і клапаціцца перад адпаведнымі установамі аб адчыненьні беларускіх школаў.

Дзеля гэтага Беларускі Цэнтр зьвяртаецца да беларускіх вучыцялёў, і просіць іх зарэгістровацца ў Б. Цэнтры.

## Курсы беларусаведы і грамадзкіх навук.

Па ініцыятыве групы беларусаў студэнтаў і гімназістаў старшых клясаў пры Беларускім Цэнтры аткрыты Курсы Беларусаведы і грамадзкіх навук.

## Беларусы — поліглоты.

На курсах беларусаведы і грамадзкіх навук пры Беларускім Цэнтры большасьць слухачоў зьяўляюцца запраўднымі поліглотамі. Так, прыкладам, студэнт Іваноўскі ведае мовы: беларускую, літоўскую, англійскую, нямецкую, польскую і адчасьці лацінскую.

Гімназіст В. Кутарга ведае мовы: беларускую, літоўскую, расейскую, англійскую, нямецкую, францускую і адчасьці лацінскую.

Студэнт Ж. Сініцкі ведае: беларускую, эстонскую, літоўскую, нямецкую, расейскую, польскую, францускую і адчасьці лацінскую.

Іншыя такжа ведаюць па некалькі моваў. Усе яны вырасьлі не на беларускай зямлі і родную мову значна пазабываліся, цяпер старэнна вучацца беларускай мове і шчасьлівы, што могуць дасканаліць яе і не забывацца.

## Бюро працы.

Пры беларускім Цэнтры ў Літве істнуе бюро працы. За апошні год многа беларусаў зьверталася туды просячы даць працу. Блізка ўсе, хто толькі зьвертаўся, асабліва просячы фізычнай працы, былі рэкамандаваны і атрымалі работу.

С падшуканьнем працы найбольш зьвярталіся кваліфікаваныя працаўнікі, як сталяры, плотнікі, муляры, маляры і г. д Цяжэй справа была з падшуканьнем інтэлігэнцкай працы, але і такіх значны процэнт удалося прыстроіць на службу, чы даць часовую работу. Бюро працы заўсёды прасіла тых работнікаў, якіх рэкамандавала на работу, каб яны выпаўнялі сваю працу як мага лепш і як найшчырэй. Трэба аддаць справядлівасьць гэтым беларускім работнікам— у аграмаднай большасьці здарэньняў, яны выпаўнялі свае абавязкі як найлепш, так што за іх не прышлося стыдацца.

## У справе Беларускай Конфэрэнцыі

## резолюція Беларускага Цэнтру ў Літве.

Ў расейскай газэце „Літовскій Голос“ № 198 — 31, X. 1933 г. паявілася зацемка без подпісу нібы 28. XII. 33 г. мае адбыцца ў Каўнасе беларуская конфэрэнція, ў якой прымуць удзел „ўсе беларускія арганізаціі ў Літве“ і г. д.

Беларускі Цэнтр са здзіўленьнем прачытаў гэту зацемку і констатуе, што:

Беларускі Цэнтр аб ніякай беларускай конфэрэнціі, скліканай у бліжейшы час ў Літве нічога ня ведае, тым больш не мае прыняць ў ей удзелу.

Беларускі Цэнтр заўсёды быў і ёсьць прыхільнікам беларускіх сходаў, зьездаў, конфэрэнціяў, конгрэсаў і г. д., калі яны ладзяцца паважна, арганізавана і для добрых мэтаў, калі-ж яны праводзяцца не наважна, на сьпех, з невядомымі мэтамі, ананімна і наагул не арганізавана, то такія конфэрэнціі ня телькі не прыносяць карысьці, але могуць даць многа шкоды.

Аб зацемцы у „Литовском Голосе“ Беларускі Цэнтр думае што гэта газэтная выдумка і ня можа сабе выабразіць каб хто—колечы тайна ад іншых, тым больш ад Беларускага Цэнтру, склікаў „конфэрэнціі“ і выступаў ад імя „ўсіх беларускіх арганізацяў“

Беларускі Цэнтр нічога ня чуў ні аб тым, хто і на якіх асновах склікае „конфэрэнцію", ні аб яе складзе, а такжа праграме.

Калі-ж запраўды знайшліся —бы якія—колечы людзі, што захацелі-бы гэткім неарганізаваным чынам склікаць „конфэрэнцію" то можна было-бы такі чын вытлумачыць толькі:

альбо як поўную грамадзкую безграматнасьць; альбо асабістую зацікаўленасьць, альбо зьнешнія уплывы.

Беларускі Цэнтр ня хочэ верыць у магчымасьць сярод беларусаў вышейпамянёных зьявішчаў і хочэ верыць, што ананімная зацемка аб „конфэрэнціі" ёсьць толькі непаразуменьне.

Каунас, XII. 1933 г.

**Беларускі Цэнтр ў Літве**

## З Віленскіх газэтаў

Ў № 521 віленскай газэты „Беларуская Крыніца" зьмешчаны артыкул аб беларускіх арганізацiях ў Літве. З артыкулу відаць, што беларуская грамадзкая думка і прэса дужа цікавіцца беларускім жыцьцём ў Літве, добра паінфармавана і справядліва ацэнівае палажэньне. Прыводзім артыкул бліска поўнасьцю.

---

## Беларускія арганізацii ў Літве.

**1. Беларускі Цэнтр у Літве**. Існуе і працуе з 1 красавіка 1923 году. Гэта найбольш паважная, усестаронная арганізацыя. У склад яе ўваходзяць закладчыкі ўсіх іншых арганізацыяў і такім чынам зьяўляецца асяродкавай арганізацыяй для ўсяго беларускага руху ў Літве.

Першых пяць гадоў Б. Ц. займаўся пераважна выдавецтвам беларускіх кніг і падгатоўкай рукапісаў. З 1928 году Б. Ц. пачаў, не пакідаючы выдавецкай працы, займацца больш жывой працай. Ен зьмяшчае цэлы рад стацьцей у Літоўскай і інш. прэсе. Ладзіць цэлы рад дакладаў і дыспутаў на беларускія тэмы. Апавяшчае цэлы рад лекцыяў пабеларуску праз радыё. Дапамагае моральна і матэрыяльна беларусам. Так за апошнія гады было прачытана дакладаў больш 150, з якіх многія былі радыё-даклады. Запамог, пазычак і ахвяр зроблена на суму больш 3500 літаў (каля 540 дол.). Дадзена праца, галоўным чынам працаўнікам фізычнай працы, у 200 здарэньнях і інш.

Б. Ц. ні скуль не атрымліваў ніякай матэрыяльнай да-

памогі, усё рабілася коштам ахвярнасьці сяброў Б. Ц. Гэта дужа утрудняла працу, але абараніла Б. Ц. ад наплыву бяз'ідэйнага элемэнту.

Б. Ц. паволі здабыў давер і пашану ў Літвіноў, а такжа папулярнасьць сярод беларусаў.

Б. Ц. у сакавіку гэт. г. апавесьціў, што яго мэтай зьяўляецца галоўным чынам: аб'яднаць і коордычаваць дзеяльнасьць як паасобных беларускіх дзеячоў, так і беларускіх арганізацыяў, займацца культурнай працай. Клапаціцца аб дабрабыце сваіх сяброў, даваць моральную дапамогу і. т. п.

На чале Б. Ц. стаіць праўленьне. Старшыня — інж. К. Душэўскі, сэкрэтар—В. Барысовіч, скарбнік—І. Сіротка.

**2. Беларускае Культурна-Прасьветна Т-ва.** У 1932 годзе, стараньнямі і па ініцыятыве сяброў Б. Ц., а так-жа некаторых беларусаў неўваходзячых у склад Б. Ц., было арганізавана Беларуск. Культ. Прасьв. Т-ва для мэтаў спэцыяльна школьніцкіх і культурнапрасьветных. Многа зрабіць гэтаму Т-ву яшчэ не ўдалося. Як пойдзе далей праца і ў што выльецца Т-ва,—трудна сказаць: гэта будзе залежыць у значнай меры ад дзейнасьці праўленьня Т-ва. Некаторым сябрам Т-ва, а так-жа сябрам праўленьня закідываюць тое, што яны паднялі грызьню сярод беларусаў і начaлі бесканечныя спрэчкі. Гэта адстрашыла многіх, найбольш паважных беларусаў і яны выступілі з таварыства. Дзеля гэтага Белар. Культ-Прасьв. Т-ва траціць папулярнасьць сярод беларусаў і пашану ў літвіноў.

**3. Хаўрус беларусаў Літвы.** Арганізацыя створана толькі сёлета (у сакавіку 1933 г.) і яшчэ нічым сябе ня выявіла. Самі арганізатары ня могуць вытлумачыць яе мэтаў. Здаецца яна створана з мэтай канкураваць з Беларускім Цэнтрам. Некаторыя закладчыкі Х. Б. Л. ўгледзілі памылковасьць свайго кроку і думаюць, што Х. Б. Л. сам сабой зьліквідуецца (Х. Б. Л. зьяўляецца фактычна філіей К. Пр. Т-ва. Рэд).

**4. Аб'яднаньне Студэнтаў Беларусаў Літоўскага, Вітаўта Вялікага, Унівэрсытэту.** Арганізацыя чыста акадэміцкага характару, налічвае сябраў каля 15 чалавек.

**5. Літоўска - Беларускае Т-ва.** Асобна стаіць аснаванае па ініцыятыве Беларускаго Цэнтру і Літоўскіх дзеячоў арганізацыя прызначаная ўзаемнаму пазнаньню і збліженьню двух народаў — беларускага і літоўскага. Арганізацыя паў-

стала толькі ў 1933 годзе і трудна сказаць, у што яна вырьецца, але імёны асоб, якія ўвайшлі ў склад Т-ва, даюць магчымасьць думаць, што яно будзе працаздольнае і паважнае. З літвіноў паміж іншымі ўвайшлі прафэсары: М. Біржышка, Аугустайціс, Вольтэр, Вайліоніс, З. Жэмайціс; апрача іх: д-р Пурыцкі, інж. Аукштуоліс і многа іншых. З Беларускага Цэнтру ўвайшлі прафэсары: Лаппо, Т. Іваноўскі, а такжа інж. Душэўскі, Г. Іваноўская, В. Барысовіч, І. Сіротка, Ясінскі, прот. І. Корчынскі і шмат інш.

**Рэшта назоваў.** Больш беларускіх арганізацыяў у Літве няма. Есьць толькі сэкцыі ці інстытуцыі Беларускага Цэнтру (прыкл. Курсы Грамадзкіх Навук і Беларусаведы і інш.), або Культурна - Прасьветнага Т-ва (прыкладам Тэатаральная сэкцыя).

У Белкрускім Цэнтры разглядаецца справа магчымасьці ўтварэньня паразумеваўчага органу, але яшчэ да акрёсьленых вывадаў у гэтай справе ня дойдзена.

---

## Простая мова.

Слова „просты“ у беларускай мове мае два значэньні — першае ужываецца у геомэтрычных паняцьцях для азначаньня простай (не крывой) лініі, другое — ужываецца у значэньні „звычайны“. „Просты“, гэта ня дрэнны, а звычайны. „Простая мова“ — гэта звычайная, не чужацкая, не прыблудная, не заморская, не польская, не расейская, а „простая, звычайная, тутэйшая, беааруская, наша радная“.

„Гаварыць па просту“ — знача „гаварыць звычайна, зразумела, зычна, не шыпелявіць“.

Польская мова ужывае зварот „po prostu“ у значэньні „дрэнна, непрыгожа“. Палякі, каб як—колечы унізіць гордасьць беларуса стараюцца прышчапіць сказу „па просту“ не беларускае дадатнае, а свае дрэннае значеньне і гэтым хочуць падкрэсьліць, што „беларуская, глянь, мова простая, мужыцкая, а польская ня простая, панская.

Часта у зродных мовах бывае так, што адно і тое-ж слова мае іншае і, нат, процілеглае значэньне. Прыкладам па расейску слова „вонь“ — азначае „смород“, а па польску „woń“ азначае „запах“. Гэта слова нават паслужыла прычынай вядомай прыказкі: „Што рускаму сьмярдзіць, то

паляку пахніць".

Вертаемся да слова „па просту". Цікава, што па літоўску для азначэньня паняцьця „звычайны" (расейскага - обыкновенный) ужываецца тое-ж слова, што і у беларусаў, найменна: „paprastai". „Paprastai" — гэта ня дрэнна, а звычайна.

**Для Літвы гэты, 1933 год быў даволі сумны Яна страціла некалькі сваіх найлепшых сыноў.**

## Кан. І. Тумас-Вайжгантас

(8. IX. 1869 — 29. IV. 1933)

Сьветлай памяці Кан. Тумас-Вайжгантас радзіўся 8 верасьня 1869 году у весцы Мелайшы Ракіскага павету у сямьі сельскага гаспадара

Кс. Тумас-Вайжгантас быў адным с патрыархаў Літоўскаго адраджэньня і вызначны пісьменьнік. Пасьля сябе ён пакінуў больш 20 томаў твораў і прымаў удзел як пісьменьнік у больш 60 часопісаў. Са сьмерцьцю Тумаса-Вайжгантаса Літва страціла свайго вялікага чалавека, а беларусы свайго прыхільніка.

## Дарюс і Гірэнас

Дарюс і Гірэнас трансатлантыцкія лётнікі. Яны парашылі ляцець бяз спуска на самалёце „Lituanica" з Амэрыкі у Літву вылецелі 14 ліпня г. г., пераляцелі акіян і ад няведамай прычыны пацярпелі катастрофу над нямеччынай каля г. Солдіна, недаляцеўшы толькі якіх 200 км. да Літвы. Іх самолет зваліўся ў лес, зламаў некалькі дрэваў і пахаваў пад сваім абломкамі гэрояў 15 VII 1933 г.

## А. Крышчукайціс-Аішбэ

(24. VII. 1864 — 29. X. 1933)

А. Крышчукайціс радзіўся 24. VII. 1864 г. у в. Пажэры Вілкавіскага пав.

Старшына вярхоўнага Трыбунала А. Крышчукайціс разам с Тумасам і нек. іншымі такжа зьяўляецца патрыархам Літоўскага адраджэньня. Ён вызначны і здольны пісьменьнік і публіцысты працуе блізка ва усіх часопісях Літвы ад самага пачатку і пакінуў пасьля сябе многа твораў.

Быў, як і ўсе вызначныя літвіны, вялікім прыхільнікам беларусаў і беларускага адраджэньня.

**Схіляючы голаў перад гэтымі людзьмі мы выражаем літоўскаму народу наша сардэчнае спачуцьцё у гэтай вялікай утраце.**

# Конфэрэнцiя.

Кождая партыя, таварыства, чы iншая групiроўка можа склiкаць конфэрэнцii, гэта знача „гутаркi“, абмен думкамi у якой колечы конкрэтнай, наперад высунутай справе. Часам конфэрэнцii, г. зн. гутаркi, нi да якiх вывадаў не даводзяць, часам-жа сабраўшыяся прыходзяць да тых чы iншых вывадаў, рэзалюцiяў i нават пастановаў. Пастановы Конфэрэнцiяў бываюць „пажаданыя“ альбо „абавязковыя да выпаўненьня“ для тых, хто прымаў удзел у конфэрэнцii. Кождая конфэрэнцiя на столькi мае вагi i значэньня, на сколькi яна была паважна праведзена, об'ектыўная, i на сколькi ў ей было менш асабiстай зацiкаўленасьцi.

Для склiканьня конфэрэнцii зацiкаўленымi старанамi павiнен быць вызначаны орган, кшталтам камiтэту, якi павiнен безстаронна апрацаваць, калi так можна выразiцца, статут конфэрэнцii, г.зн варункi удзелу ў ей паасобных асоб чы арганiзацiяў.

Для ўсiх зацiкаўленых павiнна быць саўсiм ясным.

1) Якiя мэты конфэрэнцii.

2) Хто мае права i ў якой прапорцii чы лiку прыняць удзел у ёй.

3) Якiя яе правы, г. зн. чы толькi абмен думкамi, чы прыняцьце рэзалюцiяў альбо iншых пастановаў.

4) Ад чыйго iмя гаворэ яна.

5) Калi будуць „пастановы“, то для каго абавязковы, або пажаданы.

6) I многа iншых пытаньняў.

Калi Конфэрэнцiю склiкае якая-колечы групiроўка чы партыя, прыкладам, конфэрэнцiя беларускiх х—д.; с—д, чы камунiстых, альбо якое—колечы навукава-грамадзкая таварыства, прыкладам: беларускае т-ва для досьледаў над тубэркулёзнымi i г. д., то гэты партыi, чы т-вы маюць права рабiць, што i як яны хочуць. Яны самi нясуць адповядальнасьць за вынiкi конфэрэнцii i выступаць маюць права толькi ад iмя тых групiровак, якiя iх упаважнiлi. Да такiх конфэрэнцiяў нiкому нiякай справы няма i нiхто не мае маральнага права ў iх ўмешвацца.

Саўсiм iншая справа, калi нехта, зьбiраецца склiкаць агульна — беларускую Конфэрэнцiю i апавешчае праз часопiсi, што у ёй „прымуць удзел ўсе беларускiя арганiзацii“. У такiм здарэньнi нi водная беларуская арганiзацыя ня можа маўчаць.

Нехта апублiкаваў у расейскай ковенскай газэце „Литовский Голос“, што у Каўнасе

28 сьнежня 1933 году адбудзецца „беларуская Конфэрэнція, у якой прымуць удзел ўсе беларускія арганізаціі Літвы“. У гэтым № Б. А. мы знаходзім пратэст-выясьненьне Беларускага Цэнтру ў Літве, арганізаціі безумоўна найпаважнейшай, найстарэйшай, найбольш усестароннай і цэнтральнай, з якога ясна відаць, што Б. Цэнтр нічога ня ведае аб конфэрэнціі і тым больш не мае прыняць удзелу ў ей.

Арганізатары „конфэрэнціі“ відаць дужа лёгка кідаюць громкімі назовамі і любяць няпрошанымі гаварыць ад чужога імя. Выжэйпамяненай публікаціяй яны ужо дапушчаюць няпраўду, калі ня больш. Мы маем права падумаць, што нехта патаёмна ад арганізаванага беларускага грамадзянства хочэ склікаць с падабраных „пэўных, чы бліскіх“ людзей нейкі зьезд для мэтаў ім толькі вядомых, альбо такіх, што яўна нельга сказаць і апавесьціць гэткі зьезд „агульна беларускай конфэрэнціяй“. Такія чыны нас абурываюць.

Мы не дапусьцім, каб такім чынам опэравалі высокім беларускім імям. Самазванства і непаважнасьцей у агульнабеларускай рабоце не павінна быць. Гэта паніжае гонар беларускай справы, тармозіць беларускую работу, зьменшае дасягненьні беларусаў. Калі хочуць паасабныя людзі групіроўкі чы партыі ладзіць конфэрэнціі, мы ім перашкаджаць ня будзем—гэта не наша справа, але гаварыць і ад нашага імя без нашай згоды мы не пазволім.

Нам памятна, як недаўна спрытная компанія зробіла „беларускі зьезд“ толькі на тое, каб вымагаць дэмагогіяй грошы ад паасобных беларускіх дзеячоў.

Ім гэтага не ўдалося. Нас цешыць, што на чале гэнага „зьезду“ стаялі ня беларусы, але людзі, якія толькі хацелі пажывіцца пры беларускай справе. Бедная беларуская справа, хто яе толькі ня топчэ. Было-бы дужа сумна, каб і цяпер уздумалі с падобнымі мэтамі ладзіць „конфэрэнцію“.

На скольк і нам вядома беларускае грамадзянства Віленшчыны і Гродзеншчыны, прынамсь найпаважнейшыя беларускія арганізаціі ў Краі зьяўляюцца праціўнікамі непаважных, непрадуманых, скарасьпелых конфэрэнціяў. Так-жа глядзяць і найповажнейшыя беларускія дзеячы у Чэхіі і Латвіі.

Пара ўжо ўсім ведаць што прайшлі часы „рэволюцыйных чынаў“. Прышоў час упорчывай, срога арганізаванай, органічнай працы. Грамадзянства беларускае у значнай меры вырасла. Ўсе беларускія грамадзкія дзеячы асабліва ў краі ўжо

добра разбіраюцца ў палітычных і грамадзкіх пытаньнях.

Толькі сярод невялікай часьці эмігрантаў, якія альбо праспалі грамадзкую работу у молодасьці, альбо ніколі грамадзкімі дзеячамі ня былі і ня ёсьць—існуе яшчэ несьвядомасьць і грамадзкая неграматнасьць.

[Прыкладам: паважныя сходы яны імкнуцца ператварыць у мітынгі, з другога боку вымагаюць, каб паважныя арганізаціі і дзеячы лічыліся з мітынгамі толькі таму, што на іх яны старшынствавалі і таму, што там было пару дзесяткаў чалавек, з якіх большасьць іх сваякі, падуласныя, (часта не беларусы), прыкашчыкі с семьямі, пяток іх суседаў (не беларусы) і т. п. „свая" компанія і ўрэшце пару чалавек заблудшых, неорьентуючыхся беларусаў. Часам такія людзі нават пішуць, праўда, безграматнейшыя, пратэсты. Часта зьмешваюць і пераблутываюць рожныя паняцьці і назовы: простае праўленьне нейкай прыватнай арганізаціі называюць грамка „беларускім нацыянальным к-там.".Доходзіць да таго, што не орьентуюцца у самых звычайных назовах і не разумеючы сказу „сымпатык ідэі" думаюць, што гэта „сымпатычны" (альбо несымпатычны) чалавек. Ня ведаюць таго, што кождая арганізація можа прыняць у свой склад толькі сымпатыкаў сваей ідэі, альбо мэтаў і не пусьціць элемэнт сабе невядомы альбо чужы. Ўрэшце не ведаюць звычая галасаваньня на сходах колернымі картачкамі і г. д.]

Але грамадзка безграматных і прымітыўных людзей, нават і сярод эмігрантаў, с кождым днём становіцца усё менш. Яны альбо навучаюцца і становяцца граматнымі, альбо адыходзяць ад беларускай справы, бо скора даведываюцца, што беларуская справа нікаму не прыносіць ніякай матэрьяльнай карысьці і каля яе нельга пажывіцца. Наадварот, беларушчына яшчэ вымагае многа працы і ахвярнасьці.

Заканчываючы, мы павінны сказаць што толькі такія конфэрэнціі прыносяць карысьць, якія добра арганізаваны, скліканы для добрых мэтаў, праведзены паважна і ў паразуменьні з усімі беларускімі арганізаціямі. У паважнай конфэрэнціі, як нам здаецца, прыняў бы удзел і Беларускі Цэнтр.

Мы можам параіць арганізатарам „Конфэрэнціі" задумацца і перш добра пазнаць грунт для яе, а намечанае сабраньне можна было-бы ужыць для абмену думкамі паміж іншым і па поваду скліканьня конфэ-

рэнціі. У абмену думкамі Беларускі Цэнтр, як нам ведама, мог-бы так сама прыняць удзел, калі-б гэты абмен думкамі такжа быў паважны і на нэўтральным грунце праведзены.

## Тутэйшыя.

Беларусы на бацькаўшчыне часта сябе называюць „тутэйшымі“. Па беларуску гэта слова мае шырэйшае знечэньне чым польскае tutejszy, альбо расейскае „здешний“. Яго можна ператлумачыць словам „абориген“. Гэта значэ „тутэйшы“ с прадвеку, усімі сваімі карэньнямі, не прыблуда, які часона і прыпадкова жыве „тутака“, а чалавек, што зросся с краем, ужывае яго „тутэйшую“-беларускую, а не чужацкую польскую ці іншую мову, мае тутэйшые-беларускія звычаі. Цікава, што беларусы мала ужываюць гэтага азначаньня ў гутарцы паміж сабой, г. зн. у гутарцы з беларусамі хаця-бы і з іншай ваколіцы, а блізка толькі с чужынцамі і хочуць гэтым нібы падкрэсліць рожніцу паміж сабой (тутэйшымі) і іншымі людзьмі-чужынцамі—прыблюдамі, хаця бы яны і жылі „тутака“.

Дзіўна, назова „тутэйшы“, здавалася-бы самая нявінная, аказася для беларусаў не толькі не карыснай, а нават шкоднай. Палякі, каб разьбіць еднасьць беларусаў, каб аслабіць націянальнае самапачуцьце сярод беларусаў заахвочываюць ужываць гэту назву, хочучы апрача таго прыдаць слову „тутэйшы“ свае значэньне. Нават у часе перапісу жыхарства на Беларусі — палякі ўвялі у статыстыку рубрыку „тутэйшых“, хочучы пасьля іх прылічыць да „тутэйшых палякаў“, такжа як яны прапагандуюць назву „палешукоў“

## Жарты.

— Чые дурні наймацнейшыя?

— Рускія, бо яны валеныя. Кажуць: „дурака валять“.

Беларускія дурні слабыя, бо яны клееныя. Кажуць: „дурня клеіць“.

---

— Чаму карасінка „прымус“ завецца „прымусам“

— Калі яе не напумпуеш, не прымусіш гарэць — яна гарэць ня будзе.

---

Чый народ лепшы рускі, польскі чы беларускі?

— Рускі ды польскі народы дрэнныя, бо яны каня бьюць бічом.

— Беларускі народ лепшы, бо ён каня толькі пужае пугаю.

---

### Беларускі гурток у Еўі.

Апошнімі часамі у м. Еўі арганізаваўся беларускі культурны гурток. Было пастаўлена тэатральнае прадстаўленьне. Гурток дамагаецца, каб у Еўі была адчынена беларуская школа. Як нам вядома, Беларускі Цэнтр у Літве дужа спрыяе такой бел. культ. рабоце і са свайго боку усё робіць, каб дапамагчы беларусам Еўя у іх справядлівых і прыгожых дамагоньнях.

---

Redaktorius-leidėjas: inž. K. Dušauskas-Duž.
Рэдактор-выдавац: інж. К. Душэўскі-Дуж.
A. Bako spaustuvė, Kaunas, Ožeškienės g. 5, tel. 970.